нага“ міністра, ды йшчэ — міністра справядлівасьці. Работнікі, сяляне, нацыянальныя меншасьці Польшчы (гэта ж вялікая большасьць яе насяленьня!) рашуча заявілі, што ня маюць даверыя да „справядлівасьці“, якую ўасабляе п. Выганоўскі, якую завялі ў Польшчы адносна да большасьці насяленьня ўрад п. Грабскага і соймавая большасьць. Гэтая большасьць адкінула і ўсе іншыя прапазіцыі, якія ў тэй ці іншай форме выражалі тое самае недаверые...

У выніку гэтага — міністар Выганоўскі, адзін з самых заядлых эндэкаў, астаўся і будзе сядзець надалей... па справядлівасьці ў Польшчы!

## ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў з Беларускага Клюбу да п. Старшыні Рады Міністраў — у справе невыпаўненьня Урадам абязываючых уставаў аб адбудове беларускіх абшараў, зьнішчаных вайной.

Хваля сусьветнае вайны, якая прайшла праз Эўропу, на абшарах былое Расейскае Імпэрыі найбольш закранула беларускія землі. Тысячы беларускіх вёсак і мястэчак зьніштожаны да тла, не пакінуўшы ніякага знаку істнаваўшых тамака людзкіх сяліб. Статыстыка ў гэтай справе паказуе зьнішчэньне ў некаторых гмінах 100%. Калі скончылася сусьветная вайна, беларускае насяленьне, карыстаючыся падмогай дрэвам на будоўлю ад радавае ўлады, распачала адбудову сваіх будынкаў,—але пасьля заняцьця беларускіх зямель Польшчай справа адбудовы спынілася на мёртвым пункце.

На аснове уставу аб адбудове краю з 1919 году польскі ўрад распачаў адбудову толькі на этнаграфічна польскіх тэрыторыях. Нават сам міністар публічных работ, п. Рыбчыньскі, заявіў у Сойме, што, пасоўваючыся на ўсход, стан адбудовы прадстаўляецца ўсё гарэй. Як толькі адбудова этнаграфічна польскіх зямель блізу закончылася, ўстаў аб адбудове з 1919 году быў закінуты, і дзеля прысьпешаньня адбудовы будынкаў, зьнішчаных з прычыны ваенных апэрацый, выданы устаў з 6 ліпня 1923 г. аб прыйманьні лясное даніны на адбудову краю. Хаця мінае ўжо год ад часу выданьня гэтага ўставу, адбудова беларускіх абшараў ані не пасунулася ўпярод. Масавыя заявы пацярпеўшых, падаваныя ў Беларускі Клюб, сьведчаць аб тым, што ўстаў аб лясной даніне зусім не дае ім падмогі, бо, ня гледзячы на ўсе стараньні, яны ня могуць дабіцца дрэва на будоўлю вясковых хат і гаспадарак.

Цяпер, у сувязі з уставам з 6 мая 1924 г. аб дзяржаўнай помачы на адбудову будынкаў, зьнішчаных ваеннымі апэрацыямі, выдадзен адпаведны загад аб ліквідацыі—з днём 30 чэрвеня г. г.—павятовых бюро адбудовы, бо дапамога будаўлянымі матэрыяламі зусім ня будзе выдавацца. Гэтая ліквідацыя, а такжа адсутнасьць новае установы, якая фактычна мае даваць пазыкі на адбудову, робіць на пацярпеўшых уражэньне, што ўрад зусім кінуў даваць сялянству дапамогу на адбудову зьнішчаных вайной будынкаў.

Гэты распачны стан беларускага сялянства, якое ўжо колькі гадоў сядзіць у сырых зямлянках, або зусім ня мае даху над галавой, раздражняецца яшчэ сьцягіваньнем вялікіх падаткаў. Скарбовая ўлада пры вызначаньні дзяржаўных падаткаў зусім не рахуецца з тым, што дадзеная вёска ці платнік былі зруйнаваны з прычыны ваенных апэрацыяў і яшчэ не адбудавалі сваіх гаспадарак. Падаткі дзяржаўныя, падаткі соймікавыя, падаткі гмінныя, пажарныя складкі, зьбіраныя дырэкцыяй узаемнага страхаваньня, а такжа іншыя павіннасьці, вымаганыя ад беларускага сялянства,—гэткія вялікія, што ня толькі перавысілі ўсе перадваенныя нормы, але і вышэй за даходы, якія на маленачкім шматку зямлі чарпаюць з сваей працы сяляне.

Гэткія **адносіны польскае ўлады,** якая не дае беларускаму сялянству дапамогі дзеля адбудовы зьнішчаных з прычыны вайны гаспадарак, ды толькі вымагае непамерна вялікіх падаткаў і натуральных адбыткаў (даваньне падвод, будаваньне і праўка соймікавых дарог), **даводзяць яго няраз да бунту, які выяўляецца ў адмове плаціць падаткі,** як, да прыкладу, было ў Вайстомскай гміне, Сьвянцянскага пав.

Дзеля вышэйшага ніжэйпадпісаныя пытаюцца ў п. Старшыні Рады Міністраў:

1) Ці маніцца ўраз-жа прыступіць да правядзеньня ў жыцьцё ўставу з 6 мая г. г. аб дзяржаўнай дапамозе ў адбудове будынкаў, зруйнаваных ці папсаваных з прычыны ваенных апэрацыяў на абшарах ваяводзтваў: Віленскага, Навагрудзкага, Беластоцкага і Палескага?

2) Ці маніцца да часу правядзеньня фактычнае адбудовы зьнішчаных вайной гаспадарак звольніць платнікаў ад высокіх падаткаў?

Варшава, 3 ліпня 1924 г.

**Кожны селянін, калі прыедзе у Вільню, павінен зайсьціся ў беларускую кнігарню на вуліцы Завальнай пад № 7. Там ён можа набыць па сходнай цане шмат цікавых, карысных і патрэбных кніг, як для сябе, так і для суседзяў сваіх.**

# Дэклярацыя вызваленцау-беларусау.

Пры выхадзе паслоў-беларусаў з польскае партыі „Вызваленьне“ з прычыны падтрыманьня гэтай партыяй процібеларускіх законаў аб мовах пасол Станіслаў Бальлін злажыў гэткую дэклярацыю:

„Ад імя свайго і тых таварышоў-беларусаў, якія са мною салідарны, заяўляю:

„Крэпка веручы ў шчырасьць праграмы, а такжа ў чыстасьць і безкампраміснасьць тактыкі P. S. L. „Wyzwolenie“, некаторая значная група беларусаў з культурай пераважна польскай сьвядома пайшла пад штандар P. S. L. „Wyzwolenie“ дзеля супольнае брацкае клясова-мужыцкае барацьбы за зямлю, за ўладу і асьвету, за зьдзейсьненьне поўні грамадзянскіх правоў для ўсіх народаў Польшчы, бачучых дагэтуль адно толькі уціск.

„Гэтае брацтва аружжа польскага і беларускага працоўных народаў, нічым ня зьвязанае і нікім не навязанае, а выплываўшае з супольнасьці ўмілаваньня найвышэйшых культурных і ідэйных цэннасьцяў,— знайшло сваё выражэньне такжа і ў Сойме ў пастаці гэтае жмені паслоў беларускае нацыянальнасьці, каторыя ў імя супольных ідэалаў радыкальнае сацыяльнае перабудовы Польшчы станулі пад штандарам „Wyzwolenia“ дзеля супольнага змаганьня, як з разбэсьціўшымся, пануючым і уціскаючым польскім шавінізмам, так і з уцісканым беларускім шавінізмам. Першы крок супольнае барацьбы, у вагні якое мы ня раз натыкаліся на самую featurednародную правакацыю з розных старон, з трывогай глядзеўшых на гэтае брацтва працоўных у Польшчы, ня гледзячы на чысьленыя сутычкі і тактычныя розьніцы, аднакжа йшчэ мацней нас аб'яднаў і загартаваў да барацьбы. Толькі ў другім годзе соймавае працы, калі перад правадырамі клюбу, які ў тым часе павялічыўся на чверць сваей пачатнай лічбы ўваходам элемэнтаў, як па сваей праграме, так і тактыцы чужых, вырасьлі пэрспэктывы **лёгкіх здабычаў—перадусім асабістых,** дый то коштам праграмна-тактычных кампрамісаў на карысьць правіцы,—тады варункі нашага супрацоўніцтва радыкальна пераменіліся. Усё тое, што нашай супольнай барацьбе надавала характар супрацоўніцтва,—счэзла! Перасталі карыстацца нават нездаровым — з увагі на вялізарную лічэбную перавагу ў клюбе паслоў-палякоў—правам перагаласовываньня; бадай усьцяж стаўлялі ўвесь клюб перад стаўшымся фактам, калі ўжо адступленьне азначала-бы руіну палітычнае кар'еры правадыроў клюбу і ўпадак павагі апошняга.

„Ад мэтаду—яснага і чыстага, абапертага на супольне абгавораным і прынятым галасаваньнем тактычным высілку: ісьці да вызначанае ў праграме мэты цераз усе перашкоды, — перайшлі да **мэтаду кампрамісаў і тайных сходак з абшарніцка-капіталістычным прадстаўніцтвам у Сойме** — супраць выразных дырэктываў ад працоўных масаў і заўсёды на шкоду для іх.

„Мэтады кампрамісаў і тайных сходак адзначаюцца тым, што, калі ўжо раз улез у гэтае балота, дык прыходзіцца лезьці што-раз глыбей у яго—ажно да самазапярэчаньня. Шавіністычная правіца, патроху, але няўпынна, у працэсе закуліснага палітычнага торгу, атручывала палітыку „Wyzwolenia“. І мы дайшлі да таго, што наш старшыня Тугутт, які сам кінуў кліч чуць што не да рэвалюцыйнае барацьбы проці інсьпіраванага правіцай падзелу грамадзян гаспадарства на розныя сорты, які не завагаўся ў ахвяру гэтай барацьбе зарызыкаваць нявіннай мучаніцкай крывёй сьветлае памяці Нарутовіча,—цераз год ужо сам, насупраць дырэктывам зьезду 25.000 выбаршчыкаў, **гэты падзел грамадзян зацьвярдзіў:** старшыня Тугутт ня ўзяўся тварыць урад без падтрыманьня правіцы і адкінуў падтрыманьне мужыцкіх славянскіх клюбаў!

„З таго часу ў кожным палітычным кроку „Wyzwolenia“ выяўляецца аблічча заўсёды згубнага на далейшую мэту маккіявэлізму: **гаворыцца адно, а думаецца і робіцца другое.** Мы скідаем Вітоса за цераземернае абкладаньне беднага насяленьня падаткамі і за цераземерны ваенны бюджэт, за запраданьне зямельнае рэформы і зламаньне адбудовы. Садзім на прэм'ерскі пасад абшарніка Грабскага і даем яму поўную свабоду блізу цалком пераклясьці санацыйныя цяжары на плечы працоўных, зацьвярджаем яму чуць не ўдвая вялікшы бюджэт на войска і амаль ні граша на зямельную рэформу і зямляробства, зацьвярджаем блізу поўную ліквідацыю працы над адбудовай. **Пры маўклівым падтрыманьні з нашага боку пан Грабскі робіць тое, дзеля чаго данядаўна арганізовываліся гучныя фашыстаўскія дружыны.**

„Сяньня мы стаімо перад абліччам законапраектаў, уложаных п. Тугуттам на ўласную руку ў таёмным абасабленьні нават ад уласнага Клюбу і—ў суполцы з п. Ст. Грабскім. Гэтыя законапраекты выяўляюць поўнае адхіленьне „Wyzwolenia“ ад праграмнае дарогі, бо ігнаруюць голас усіх меншасьцяў, як раўнапраўных грамадзян, маючых першы голас пры ладжаньні іх лёсу і жыцьця. Апрача таго **гэтыя уставы цалком прыймаюць становішча нацыянал-дэмакратыі ў адносінах да меншасьцяў.** У іх выяўляецца **эндэцкі прынцып пануючага народу і адыход ад прынцыпу брацкага сужыцьця і супрацоўніцтва, дагэтуль абвяшчанага лявіцай.** Гісторыя гэтых законапраектаў і абставіны, у якіх яны нарадзіліся, найлепш паказуюць, што больш сумленная часьць лявіцы польскага Сойму стыдаецца таго, што робіць....

„Гэтым новым адрачэньнем ад свайго праграмнага становішча „Wyzwolenie“ вырвала апошні астравок грунту, на якім было магчыма такое супрацоўніцтва беларусаў у польскім клюбе.

„Дзеля гэтага ніжэйпадпісаныя з глыбокім жалем у сэрцы пакідаюць клюб „Wyzwolenie“ і будуць галасаваць проці законапраектаў, а таксама проці бюджэту.

„Крэпка верым, што ня робім гэтага дзеля ненавісьці ці непрыязьні. Шчырая і гатовая да найвялікшых высілкаў і ахвяр рука беларускага селяніна на мамэнт завісла ў паветры, але хутка сустрэне таксама шчырую руку польскага селяніна“.

Варшава, 9 ліпня 1924 г.

Цікава, што паслы Галавач і Шапель дагэтуль ухіляюцца ад подпісу гэтае дэклярацыі і далей цалуюцца з палякамі—на загубу свайму народу, але мо'... на карысьць сабе?!

# Палітычныя падзеі.

## Новы склад Выканаўчага Камітэту III Інтэрнацыяналу.

У Маскве 3 ліпня закончыўся 5 кангрэс III Інтэрнацыяналу, на якім быў выбраны новы Выканаўчы Камітэт. У склад яго ўвайшлі ад Расейскай Камуніст. Партыі Бухарын, Каменев, Сталін і Рыкаў, як сябры, і Сакольнікаў, Троцкі, Львоўскі і Пятніцкі, як кандыдаты. Старшынёй Камітэту аднагалосна выбраны ізноў Зіноўеў.

## На што патрэбны грошы?

Усе польскія газэты паведамляюць, што на нарадзе з міністрам вайсковых спраў, ген. Сікорскім, п. Прэзыдэнт адобрыў праект генарала аб увядзеньні ў арміі „пераходнага сьвяточнага мундзіра“...

Ня дзіва, што „раўнавага“ польскага бюджэту пры такіх „парадных“ выдатках ня можа крэпка дзяржацца: выпаўненьне праекту будзе вымагаць вялізарных — і то зусім непатрэбных і безкарысных грашовых затрат...

## Звычаі кракаўскага студэнцтва.

Польскія газэты падаюць весткі аб запраўдным тэроры, які завялі кракаўскія студэнты адносна да сваіх прафэсароў. Калі нейкі студэнт зрэзаўся ў праф. М., дык ён кінуўся на апошняга і пачаў яго душыць за горла... Другому—прафэсару мэдыцыны В.—студэнты перад экзаменам паслалі пісьмо, пагражаючы пусьціць кулю ў лоб, калі ён будзе „рэзаць“ студэнтаў. Другі раз той-жа прафэсар атрымаў ліст ад студэнта, у якім той піша, што заб'е яго ў працягу 14 гадзін, калі той зрэжа хаця аднаго яшчэ студэнта, дадаючы, што, як польскі ахвіцэр, умее добра страляць.

З прычыны гэтых пагрозаў эгзамены адложаны на восень...

Хто разумее істоту рэчы, нічога дзіўнага ў гэтым зьявішчы ня знойдзе. Хто ведае, якія льготы польскія унівэрсытэты, ня пускаючы непалякаў, даюць паляком, а перадусім гэтым здэмарал... — перапрашаем: здэмабілізаваным,—у мэтах, нічога супольнага з навукай ня маючых; хто ведае склад, абраз жыцьця і маральнасьць сучаснага польскага студэнцтва, якое сама ўлада, больш таго: само польскае грамадзянства пасылае служыць у паліцыі і дэфэнзыве, рабіць вобыскі (сьцверджаныя факты!), „паляваць на людзей“, той добра зразумее і тое, што гэты тэрорыстычны шантаж, гэтае „паляваньне на прафэсароў“—толькі вынікі створанага польскім грамадзянствам азьвярэньня моладзі...

## Вялізарны пажар у Мэсыне.

Вялізарны пажар у Мэсыне (Італія) зьніштожыў больш за 2.000 дамоў, пазбавіўшы страхі паўтары тысячы чалавек. Сьцверджана, што вінавайцамі пажару зьяўляюцца вучні аднэй з пачаткавых школаў, якія, зазлаваўшыся на суровых эгзаменатараў, падпалілі будынак школы, адкуль і пайшоў шалець пажар.

Добры прыклад далі моладзі фашысты.

## Новы закон аб прэсе ў Італіі.

Уся італьянская прэса выражае абурэньне проці новага закону аб прэсе, які выпрацаваў новы ўрад, хаця новы закон — як неба ад зямлі розьніцца ад панаваўшага ў працягу 2 гадоў фашыстаўскага тэрору.

Цікава, што новы закон Мусоліні — вельмі падобны да пануючага ў нас польскага, з якім польская прэса неяк пагадзілася.

Што значыць розьніца ў культуры і... — адсутнасьць „інародцаў“!

## Думіні — Мусоліні.

Опозыцыйныя газэты ў Італіі надрукавалі фатаграфію Мусоліні з уласнаручным надпісам прэм'ера такога зьместу: „Амэрыго Думіні, які ізноў пачынае фашыстаўскую працу. 22 лют. 1922 году“.

Тлумачучы гэты надпіс, газэты пішуць, што перарыў у „працы“ Думіні здарыўся яшчэ ў 1921 г., калі выявілася, што Думіні амаль не забіў сваіх двух таварышоў па партыі і па „працы“. Калі паліцыя на-

